№ 10 (4057)

5 лютага 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДА ЎВАГІ!

**На сусветным рынку кошты на нафту знізіліся ў тры разы – да 30–35 долараў за барэль. У сувязі з гэтым таннеюць бензін, іншыя віды паліва. Калі казаць пра спажывецкія тавары, то ў ЗША, заходнееўрапейскіх краінах яны патаннелі амаль на чвэрць. Чаму нічога падобнага не назіраецца ў Беларусі? Наадварот, цэны і тарыфы ў нас ледзь не на ўсё растуць, жыццёвы ўзровень катастрафічна зніжаецца.**

**SOS!**

БЛІЦ

# Да парламенцкіх выбараў у Беларусі ёсць магчымасць змяніць выбарчае заканадаўства (лічаць у АБСЕ)

## Ці пойдуць на гэта беларускія ўлады?

### Аляксандр ЯРАШУК, лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:

– Гэта абсалютна выключана. З якой такой нагоды ўлады раптам пачнуць змяняць выбарчае заканадаўства? Для лукашэнкаўскага рэжыму выбары – вельмі далікатная тэма. Нават у той час, калі былі здзейснены нейкія крокі, калі былі адпушчаны на свабоду палітвязні, улады прадэманстравалі, што больш нічога не будзе рабіцца, каб не паставіць пад пагрозу сваё існаванне.

Так, ёсць праблема ў заканадаўстве, але ёсць праблема і ў тым, як яно наогул выконваецца. Скольки будзе гэтая ўлада, столькі давядзецца назіральнікам бачыць толькі, прабачце, філейныя месцы асоба прызначаных для работы ў выбарчых камісіях кабет і мужчын.

Змена выбарчага заканадаўства – гэта, калі казаць адкрыта, змена ўлады. І гэтага павінен дабівацца беларускі народ.

### Людміла МІРЗАЯНАВА, выкладчыца, маці былога палітвязня:

– Не, улады на гэта не пойдуць, бо ў іх склалася сістэма, якая дае свае вынікі. Гэтая сістэма і трымае ўладу.

Мяняць заканадаўства – гэта саступка. Але не ў нашай рэчаіснасці. Тым больш калі сітуацыя неспакойная.

### Аляксандр ЦАЦОХА, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь:

– Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў уносіліся змены ў Выбарчы кодэкс. Гэта ж усё шырока абмяркоўвалася. Я не думаю, што трэба цяпер нейкія змены ўносіць. Можна зрабіць залаты закон, які будзе ўсё прадугледжваць, і ўсё роўна знойдуцца крытыканы. З сотні чалавек 10–15 будуць крытыкаваць – то тое іх не задавальняе, то гэта. Насамрэч крытыкі не так і шмат.

Што значыць недэмакратычны выбарчы закон? Не пускаюць апазіцыйныя партыі ў камісіі? Я так скажу: трэба ім працаваць не на папулізм, як яны гэта робяць, веерам пальцы распускаюць, а працаваць з народам. Як адбываюцца нейкія мерапрыемствы, дык партый не бачна, а як толькі пачынаюцца выбары, дык яны адразу актыўныя. Кажуць, што іх крыўдзяць. Дык не трэба крыўдаваць, а трэба працаваць. І працаваць так, як патрабуюць час, сітуацыя.

### Валерый ФАДЗЕЕЎ, былы намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь:

– Заканадаўства і сапраўды трэба мяняць. У той жа час я згодны і з тымі, хто кажа, што трэба выконваць хаця б тое, якое ёсць. Справа ў тым, што закон і правапрымяненне ў нас не заўсёды ідуць побач.

Ці пойдуць цяпер улады на змены, гэта пакуль не вядома. Але факт, што выбары ў нас адбываюцца непразрыста. Няма ніякай адкрытасці. Ды наогул пра што тут можна гаварыць?

### Галіна ПАНФІЛАВА, былы ўрач, пенсіянерка:

– Мне падаецца, што ўлады не пойдуць ні на якія змены. Ну, можа, касметычна якую неістотную драбязу ўнясуць, але нічога гэта не дасць. Усё застанецца, як і было. Мяняць выбарчае заканадаўства – гэта значыць пусціць непажаданыя элементы ў Палату. Дастаткова якіх дзесяць чалавек, каб яны там ваду замуцілі. А гэта ж нікому не патрэбна.

### Міхаіл ЧЫГІР, былы прэм'ер-міністр Беларусі:

– Мяняць заканадаўства? Ды няхай бы ўлады выконвалі хаця б тое, якое ёсць. Ну, уключылі б прадстаўнікоў апазіцыйных партый у склад камісій. Галоўная ж праблема ў тым, як выконваецца дзеючае заканадаўства. Калі мяне і былога старшыню Нацбанка прафесара Багданкевіча вылучылі ў выбарчую камісію, дык нам адмовілі, сказалі: "У іх няма дастатковага досведу". Там жа, бачыце, ёсць значна больш "дасведчаныя"!.. Пра што тады казаць?

### Леў МАРГОЛІН, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

– Часу застаецца не так шмат, бо ўсе заканадаўчыя папраўкі павінны ўносіцца не пазней як за паўгода да абвяшчэння выбараў. Але ёсць правапрымяняльная практыка, калі вельмі добра можна было б усё паправіць, калі б на гэта была палітычная воля. Але такой волі няма. Так што, хутчэй за ўсё, не будзе ніякіх папраўак. Выбары будуць адбывацца па тых жа правілах, як і раней.

***

Дзіўная рэч: Еўропа лічыць, што да парламенцкіх выбараў у Беларусі яшчэ ёсць магчымасць змяніць у лепшы бок выбарчае заканадаўства, а ўнутры краіны пануюць песімістычныя настроі. Дык што, у чарговы раз наступім на адны і тыя ж граблі? Ці ўсё ж праявім сілу волі і ўсе разам – палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, увесь электарат – прымусім улады правесці на гэты раз не віртуальныя, а сапраўды дэмакратычныя выбары?

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПА ЧУТКАХ І...

## Цяжкасці ёсць, але завод працуе

Карэспандэнт «Народнай Волі» наведаў магазін «Віцязь» у цэнтры Полацка і пацікавіўся, ці можна купіць тэлевізар віцебскай вытворчасці.

– *Адзін ёсць. На заводзе цяжкасці, таму не вядома, калі будуць новыя пастаўкі,*– пачуў я.

– *Чуткі аб поўным спыненні вытворчасці тэлевізараў недакладныя,* – расставіў кропкі над "і" ў размове з "Народнай Воляй" намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Віцязь» па маркетынгу і збыце Генадзь Азараў. – *Цяжкасці ёсць, але мы працуем поўны тыдзень. Затрымак па зарплаце няма і не было.*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

СМЕРЦЬ ЧАЛАВЕКА

## ...І яна прыціскала да грудзей партрэт сына з жалобнай стужкай

У сераду бюракратычны спакой суда Ленінскага раёна Мінска быў парушаны. Суддзя **Дзмітрый Астапенка** ўцякаў па калідоры ад жанчыны ў чорнай жалобнай хустачцы, нехта яму на дапамогу выклікаў міліцыю... А ўслед гучна данесілася: "Я прыйшла пагледзець яму ў вочы!.."

Мінчане **Марыя Георгіеўна** і **Уладзімір Анатольевіч Багданавы** ў аўторак пахавалі 36-гадовага сына Алега. Гэта яшчэ адна трагедыя, звязаная з Жодзінскім следчым ізалятарам. Алег, які перанёс цяжкую аперацыю на адкрытым сэрцы, знаходзіўся там у чаканні рашэння больш высокага суда – ён абскарджваў у вышэйшай інстанцыі прыгавор суддзі Астапенкі, бо лічыў яго несправядлівым.

Сутнасць крымінальнай справы такая. Была бойка. Шэсць чалавек супраць аднаго. Хто нападаў, хто абараняўся? Суддзя на падставе дакументаў следства палічыў, што нападаў той, каторы быў адзін, і асудзіў яго на чатыры гады пазбаўлення волі.

Марыя Георгіеўна Багданава яшчэ падчас суда прасіла суддзю не спяшацца з вывадамі, дасканала ва ўсім разабрацца, не адпраўляць яе сына ў турму, бо стан здароўя Алега не пакідаў сумненняў у тым, што ў няволі, без належнай медыцынскай дапамогі ён не выжыве.

Пасля вынясення прыгавору бацькі маладога чалавека разлічвалі на міласэрнасць кіраўніцтва СІЗА, медыкаў гэтай установы. І атрымлівалі адказы: маўляў, усё добра, усё пад кантролем, Алег у нас, як у санаторыі... А яму было дрэнна, ён фактычна паміраў. Яшчэ 6 студзеня Алег Багданаў, прадчуваючы, што не выжыве, напісаў на імя таго ж суддзі Астапенкі заяву-завяшчанне: "Апошнім часам я адчуваю сябе вельмі дрэнна, медыцынская дапамога не аказваецца, фельчары і астатнія работнікі пад рознымі нагодамі адмаўляюцца аказваць якую-небудзь медыцынскую дапамогу. Дабіцца праўды я не магу... Мае довады аб дрэнным стане ўспрымаюцца як сімуляцыя. Бачачы ўсю гэтую безвыходнасць, я вымушаны пакінуць завяшчанне..."

Пра апошнюю волю свайго сына бацькі даведаліся, калі забіралі яго цела і ягоныя рэчы з турэмнага морга.

А маці цяпер хоча паглядзець у вочы тым, хто вяршыў правасуддзе.

– Што вы тут робіце? Дзе ваша павестка? – дапытваліся ў яе міліцыянеры, выкліканыя на паратунак суддзі Астапенкі.

– Вось мая павестка! – адказвала жанчына, прыціскаючы да грудзей партрэт сына з жалобнай стужачкай.

**Алена НОВІКАВА.**

ФОТАФАКТ





## Лунінец захапілі баевікі

Вайсковыя вучэнні з такой "легендай" прайшлі ў Брэсцкай вобласці.

38-я асобная гвардзейская мабільная брыгада ўпершыню за гісторыю свайго існавання ў поўным складзе пакінула месца дыслакацыі і паехала "вызваляць" горад. На дапамогу вайскоўцам былі таксама прызваны рэзервісты...

Упершыню беларускія вайскоўцы адкрыта адпрацоўвалі супрацьдзеянне сцэнарыям, якія былі выкарыстаны прарасійскімі баевікамі ва Украіне. На палігоне ў нашых вайскоўцаў усё атрымалася. Але не будзем забывацца, што, як паказаў вопыт нашай паўднёвай суседкі, галоўнымі здраднікамі – тымі, хто першым перайшоў пад расійскія сцягі, – былі высокапастаўленыя ўкраінскія вайскоўцы, кіраўнікі міліцыі і спецслужбаў. На жаль, ніякімі вучэннямі выявіць патэнцыяльных здраднікаў немагчыма.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

РАБОТА НАД ОШИБКАМИ



## Без грима и порнопрошлого

*Второй национальный телеканал готовится к конкурсу «Мисс Беларусь – 2016». Из прошлых «проколов» организаторы конкурса, похоже, извлекли уроки.*

Согласно условиям нынешнего конкурса, претендентки должны быть гражданками Республики Беларусь не младше 18 и не старше 24 лет. На подиуме ждут девушек не ниже 175 см ростом, никогда не состоявших в браке, не имеющих детей. На кастинг они должны прийти без косметики.

Организаторы сообщили, что не смогут участвовать в конкурсе те, кто имеет отношение к фото- и видеоматериалам эротического и порнографического характера.

Напомним, что скандал, связанный с конкурсами красоты, разгорелся в 2013 году. Тогда 27 июня во Дворце спорта состоялся финал конкурса «Мисс Минск», победительницей которого была названа 21-летняя Яна Концевенко. А уже спустя пару часов по интернету стали гулять пикантные фото, доказывающие, что «мисс Минск» – дамочка весьма фривольная.

Дальше – больше. Скандал достиг пика, когда журналисты раскопали, что не только Яна Концевенко, но и целый ряд лауреаток и финалисток конкурса «Мисс Минск» являются исполнительницами эротических танцев в столичных клубах. Проще говоря, стриптизершами. Фото, на которых руководители города целуют руки этим «горячим штучкам», стали хитом байнета.

Руководители, естественно, тут же закрыли рты, а вот глава Союза писателей Беларуси, председатель Общественного совета по нравственности Николай Чергинец высказался. «Путана, получившая звание «мисс», – вот это красавица! И сколько же она будет стоить?» – задался он вопросом.

Организаторы конкурса «Мисс Беларусь» решили даже возможность подобных скандалов пресечь в зародыше. Кастинги на конкурс пройдут 13 и 14 февраля в Национальной школе красоты в Минске.

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

ПО ПОВОДУ



Мария ЭЙСМОНТ

## Прозрели?

Это сродни сенсации. Депутат Палаты представителей Владимир Шитько предложил увеличивать пенсионный возраст поэтапно и начинать при этом с госслужащих и силовиков.

Да, вы не ослышались! Представитель власти озвучил то, что у всех на устах, но о чем высокопоставленные чиновники не говорят, когда пытаются объяснить, почему в стране назрела необходимость «отодвинуть» возраст выхода на пенсию.

Тема эта не новая, но с особой силой зазвучала в конце прошлого года, когда сразу после президентских выборов Александр Лукашенко заявил, что пенсионный возраст надо повышать, но «решать через людей». Вроде предложил чиновникам посоветоваться с народом, как сделать это менее болезненно.

Что, в принципе, является нормальной практикой: к любой непопулярной мере всегда готовится общественное мнение. Людей приучают к мысли, что это неизбежно, экономически целесообразно и т.д. и т.п. Но в любой нормальной стране идет диалог, обмен мнениями, чтобы у тех, кто принимает решения, была возможность рассмотреть разные варианты и принять лучший. Однако нам почему-то вдалбливают в голову только одну-единственную мысль: пенсионный возраст у нас низкий, не учитывает экономических реалий, а они таковы, что число пенсионеров растет, а количество трудоспособных граждан уменьшается. То есть скоро просто некому будет зарабатывать пенсионерам пенсию. В общем, если хотим жить на пенсии лучше, значит, и выходить на заслуженный отдых надо не в 55/60 лет, а гораздо позже.

Одним из последних аргументов стали данные статистики, что каждый четвертый пенсионер в Беларуси продолжает работать. Хотя все понимают, что это чистой воды лукавство. Работают белорусы на пенсии не потому, что скучно дома сидеть. А потому, что нынешняя «мудрая» экономическая политика вынуждает их это делать ради того, чтобы прокормить себя, купить лекарства, оплатить коммуналку, а порой и помочь детям, оказавшимся в очень трудном положении.

Согласитесь и с тем, что на «непопулярные меры» можно смотреть по-разному. Если растут цены на продукты питания и ваша семья принимает решение экономить на деликатесах, это непопулярная мера? Скорее равномерное затягивание поясов. А непопулярная мера – это когда глава семейства продолжает за обе щеки уплетать бутерброды с икрой, а остальным даже на масло не хватает.

Так и с пенсией.

Сегодня в Беларуси несколько категорий получателей пенсии. Госслужащие, военные и сотрудники силовых ведомств, а также обычные люди – учителя, инженеры, врачи, водители, строители и т.д. Однако чиновники почему-то ведут разговор исключительно о возрасте обычных пенсионеров. С их точки зрения уходящий на пенсию в 60 лет адвокат или инженер – это неправильно. Но справедливо ли, когда белорусские военные или милиционеры становятся пенсионерами в 45 лет?! Неужели их труд более ответственный, более выматывающий, чем преподавателя, машиниста, директора завода? Инспектор ГАИ больше устает, чем хирург в операционной или школьный учитель на уроке? Причем ранний пенсионный возраст – это не единственный бонус у наших военных и силовиков. У них и льготные кредиты на жилье, и внеочередное жилье, и бесплатная форма, и доплата за «погоны», и немаленький отпуск, и пенсия, значительно большая по размерам, чем у обыкновенного человека...

То, что свой народ нельзя все время обирать до нитки, гнуть к земле, понимали даже цари. Когда страна переживала нелегкие времена, беззащитные низы старались не трогать, в первую очередь жертвовали интересами тех, кто нарастил жирок, помогая удерживать власть. Это, собственно, и предлагает сделать депутат Шитько.

По всем законам государственного управления он все правильно предлагает. Очень даже правильно все объясняет, когда говорит о том, что пенсионный возраст сначала нужно увеличить для госслужащих, которые работают в более комфортных условиях, чем люди на производстве, в поле, на ферме. А пенсии потом имеют не 2,5–3 миллиона, как доярки или рабочие, а 7–8, а то и все 10 миллионов, как депутаты. Справедливо?..

Причем это те управленцы, которые доруководились до того, что государство теперь не способно ни работающих на прибыльных производствах задействовать, ни обеспечить пенсионеров более-менее нормальным пособием. Вот пусть теперь показывают пример, как, отказавшись на пару лет от пенсии, помогать стране!

Или возьмем силовой блок – военные, МВД, КГБ. Сегодня пенсия младшего офицера выше, чем пенсия врача или учителя. И, получив ее в 45 лет, бывший военный или милиционер продолжает работать на гражданке. Среди этой категории пенсионеров, думаю, другая статистика: не каждый четвертый работает на пенсии, а гораздо больше. Что им вообще делать на пенсии в таком-то возрасте?!

Жаль только, что Владимир Шитько – пока единственный представитель власти, который на проблему повышения пенсионного возраста посмотрел глазами обычного белоруса. И остается только догадываться: это исключительно его личное мнение или власти прозрели?

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## За китайский язык хорошо платят

*Весьма неплохие зарплаты по нынешним временам предлагают тем, кто готов стать сотрудником китайско-белорусского СЗАО «Компания по развитию индустриального парка».*

Так, заместителю генерального директора обещают зарплату в 53.150.000 белорусских рублей, замначальника – 22.500.000, ведущим специалистам – от 16.200.000 до 29.700.000, второму специалисту – от 13.050.000 до 26.550.000 белорусских рублей.

– *Да, на сегодняшний день нам все еще нужны специалисты с высшим образованием и знанием китайского и английского языков,* – подтвердили «Народной Воле» в администрации китайско-белорусского СЗАО «Компания по развитию индустриального парка». – *Причем профиль высшего образования значения не имеет, но приветствуется также опыт работы с инвесторами и в строительстве. Если ваше резюме нас устроит, на работу можно будет выходить уже с середины февраля.*

Несмотря на то, что индустриальный парк расположен в 25 километрах от Минска, не факт, что на работу придется ездить в Смолевичский район. Вполне вероятно, что офис будет находиться в Минске на улице К.Цеткин.

### Для справки

Как заявлено, под Смолевичами строится *«современный международный экогород с акцентом на высокотехнологичные и конкурентоспособные инновационные производства с высоким экспортным потенциалом»*. На территории парка планируется разместить производственные и жилые зоны, офисные и торгово-развлекательные комплексы, финансовый и научно-исследовательский центры и прочее.

**Марина КОКТЫШ.**

